Асцярожна: спёка і вада
3 стар.

Музыка для маладых глыбачан
5 стар.

Водгук старажытных вераванняў
Васіліск
Забытае паданне альбо Монстр на дзвярах храма
6 стар.

ПЛЮС TV
ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ
БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, УШАЧЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# Вольнае Глыбокае

http://vglybokaye.promedia.minsk.by
Выдаецца са снежня 1994 года № 24(115) 13--19 чэрвеня 2002 года Кошт па дамове

## Медыцынскі работнік – словы шчымлівыя


Фота Я.Берніковіча

**Алена Ціхановіч**, урач дзіцячай кансультацыі.

Усіх медыкаў віншую са святам. Асобна хачу павіншаваць дзіцячую кансультацыю, эндаскапію, бо гэта калектывы, у якіх я працую. Шчасця паболей, бо шчасце – гэта багацце, якое не схаваеш і якім можна падзяліцца. Канечне, здароўя, поспехаў у рабоце. Асобныя віншаванні Калеснікавай Людміле, бо яна заняла пятае месца ў міжраёным конкурсе медыцынскіх сясцёр, які праходзіў у Наваполацку, гэта мая сяброўка.

## Працягваецца падпіска на газеты на трэцці квартал 2002 года

Не забудзьце, што **"Вольнае Глыбокае"** адзіная незалежная газета заходняга рэгіёна Віцебшчыны, якую можна выпісаць на паштовых аддзяленнях не толькі Глыбокага, але і Пастаў, Докшыц!



**"Вольнае Глыбокае" гэта:**
штотыднёвая газета на васьмі старонках з каляровым укладышам 17 праграм тэлебачання і аб'явамі з усёй рэспублікі.

**"Вольнае Глыбокае" гэта:**
праўдзівая, аб'ектыўная інфармацыя з усяго заходняга рэгіёна Віцебшчыны.

**"Вольнае Глыбокае" гэта:**
артыкулы на палітычныя ,эканамічныя, сацыяльныя, культуралагічныя, гістарычныя, краязнаўчыя, маладзёжныя, спартыўныя , крымінальныя і іншыя тэмы.

**"Вольнае Глыбокае" гэта:**
вашы бясплатныя аб'явы ў нашай газеце.

**"Вольнае Глыбокае"** ужо займела свайго сталага чытача і тыдзень ад тыдня заваёўвае ўсё большую папулярнасць.

**Падпішыся – і не пашкадуеш!**

## "Вы крыху наблыталі"

У апошні момант перад выхадам газеты рэдакцыя атрымала ліст, які не маем права не надрукаваць. Вось яго змест:

"У мінулым нумары газеты, расказваючы пра плыт, які я пабудаваў на беразе саджалкі насупраць камбікормавага завода, аўтар зазначыў, што " на мачце плыта лунае бел-чырвона-белы вымпел – колеры нашага сцяга, адмененага рэферэндумам 1996 года."

Хачу зазначыць, што вы крыху наблыталі. Плыт, які паўстаў насупраць завода – паўстаў 22 траўня, у дзень Святога Міколы. Адсюль і назва – "Святы Мікола". Вымпел на мачце азначае зорку, якая адпавядае беларускаму арнаменту. На вымпеле плыта яна сімвалізуе пуцяводную зорку маракоў. І не мая віна ў тым, што апазіцыя бачыць у гэтым вымпелы свой сімвал, а ўлада сімвал апазіцыі. Як кажа доктар Сайкоўскі: празрэйце і падмяцеся над сваімі слабасцямі. З усёй павагай

*Ц.В*

**Надвор`е*** Агляд складзены па дадзеных 13/6/2002 0:00 GMT

| | 13/6 Чц | 14/6 Пт | 15/6 Сб | 16/6 Нд | 17/6 Пн | 18/6 Ат | 19/6 Ср | 20/6 Чц |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тэмпература: з 14 гадзін | +22 | +15 | +21 | +22 | +25 | +28 | +29 | +29 |
| з 2 гадзін | +14 | +15 | +11 | +14 | +14 | +18 | +20 | +20 |
| Ціск, мм рт.сл. | 747 | 741 | 745 | 748 | 749 | 747 | 747 | 746 |
| Тэндэнцыя ціску | +2 | -6 | +3 | +3 | +1 | -1 | 0 | -1 |
| Накірунак ветру | Пн-З | Пн-З | Зах | Зах | Зах | Пн-З | Зах | Зах |
| Хуткасць ветру, м/с | 3 | 7 | 6 | 3 | 2 | 2 | 2 | 2 |

© Gismeteo.Ru

Заўвага: прагноз надвор`я ў нашым рэгіёне пададзены ў прывязцы да г. Полацка

# Жадаем вам здароўя!

**Часцей за ўсё да гэтых людзей мы звяртаемся калі сапсавалася здароўе. Мы спадзяёмся на дапамогу і звяртаемся да прадстаўнікоў гэтай гуманнай прафесіі. Работнікі Глыбоцкага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання – гэта чулыя, працавітыя людзі. Напярэдадні іх прафесійнага свята ім наша газета прадастаўляе слова.**



**Ніна Гайдучонак**, лабарант

Хачу пажадаць усім сваім калегам здароўя, каб яны былі шчаслівыя. Жадаю прыбаўкі заробкаў. Каб настрой быў заўсёды добры і прыветна заўсёды адносіліся да хворых, поспехаў.



**Валіева Нэлі Міхайлаўна**, фельдчар хуткай дапамогі:

Адрасую свае віншаванні ўсім медыкам, работнікам хуткай дапамогі. Жадаю здароўя сваім калегам і здароўя нашым кліентам.



**Адамовіч Галіна Паўлаўна**, медсястра кабінета выдачы дакументаў.

У мяне шмат пажаданняў. Перш за ўсё здароўя, шчасця. Каб людзі нашы менш хварэлі, тады ўрачам і праблем будзе менш.



**Кухта Міхаіл, Паўловіч Міхаіл**, вадзіцелі хуткай дапамогі.

Калегам сваім хочам пажадаць каб менш хварэлі, здароў'я, шчасця. Гэта самае галоўнае ў жыцці.





**Глябкоўская Ганна Мікалаеўна**, медсястра даўрачэбнага кабінета, **Атрахімовіч Людміла Уладзіміраўна**, фельдчар

Віншуем усіх медыкаў, жадаем ім дабрабыту, вялікага здароўя і вялікіх грошай.

Падрыхтавалі Ю.Калбасіч і Я.Бернікович



7 чэрвеня ў Наваполацку прайшоў абласны міжраённы конкурс медсясцёр. Удзел у ім прынялі 12 медсясцёр з паліклінік Віцебскай вобласці. Праходзілі спаборніцтвы прафесійнага майстэрства, удзельніцы дэманстравалі сваё ўменне гатаваць нацыянальныя стравы. **Людміла Калеснікава**, медсястра працэдурнага кабінета заняла пятае месца і годна выступіла на гэтым конкурсе. Мы завіталі да яе ў кабінет і прапанавалі павіншаваць сваіх калег са святам.

-- Напярэдадні свята хачу выказаць падзяку галоўнаму ўрачу Котавай Ноне Барысаўне. Гэта той чалавек, які здолеў мяне настравіць, настроіць на гэты конкурс. Таксама ўдзячна за дапамогу загадчыку паліклінікі Раманаву Валерыю Яўгенавічу.

Большасць медработнікаў – гэта жанчыны. Я ім жадаю заўсёды быць прыгожымі, заўсёды ўсміхацца, быць мілымі і жаданымі.

# А ваду давядзецца пачакаць

Як мы і абяцалі ў папярэднім нумары, расказваем нашым чытачам падрабязнасці таго факта, што ў раёне малочна-кансервавага камбіната г. Глыбокага адчуваецца вялікая напружанасць з забеспячэннем шматкватэрных дамоў вадою. Адказнасць за забеспячэнне вадою нясе сам камбінат, які, уласна кажучы, і будаваў некалі гэтыя дамы на свае сродкі.

А сітуацыя ў наступным. На камбінаце некалі былі зроблены чатырнаццаць свідравін. Сёння працуе з іх сем. Астатнія з-за доўгай эксплуатацыі выйшлі са строю. І вось гэтых сямі свідравін яўна не хапае. Па-першае, львіную долю вады выкарыстоўвае на свае патрэбы сам камбінат—тэхналогія яго вытворчасці такая, што зменшыць падачу вады немагчыма. Інакш можа ўзнікнуць небяспека інфекцый. Астатняя вада ідзе ў дамы мікрараёна. І яе недастаткова.

Што ж робіцца ў такой сітуацыі?

Дырэктар прадпрыемства Глафіра Ермаковіч расказала, што заключана дамова з мінскімі спецыялістамі на свідраванне дзвюх новых свідравін, якія павінны зняць праблему водазабеспячэння. Работу гэту яны правядуць вельмі хутка, дні за два. Але вось прыехаць змогуць толькі 17 чэрвеня. Пэўны час зойме і работа па падключэнню свідравін да водаправоду. Так што жыхары пасёлка могуць разлічваць на тое, што вада ў іх кватэры пачне паступаць нармальна, толькі ў канцы чэрвеня.

Сітуацыя высветлена. Аднак нельга не задаць пытання. Прабої з водазабеспячэннем пасёлка – з'ява далёка не сённяшняга дня. Чаму нельга было прыняць такога рашэння раней? Відаць, спрацоўвае ранейшы савецкі стэрэатып. Галоўнае – забяспечыць вытворчасць. Ну, а людзі могуць і пачакаць. Заганны стэрэатып. Але пераадольваць яго павінны не толькі чыноўнікі, тыя, хто пастаўлены якраз на абарону нашых інтарэсаў. Але і мы самі. Як бы ні былі абмежаваныя магчымасці простых людзей, яны ўсё-такі маюць магчымасць выказаць свае меркаванні. Хаця б у час выбараў у мясцовыя органы ўлады.

Нельга не зазначыць і таго, што многія жыхары мікрараёна і ў гэтыя напружаныя з вадою часы, выкарыстоўваюць яе для палівак сваіх гародаў, падключаючыся да сістэмы цэнтральнага водазабеспячэння. Таму на чацвёртых-пятых паверхах дамоў і ў рэдкія гадзіны падачы вады жыхары атрымліваюць яе ледзь-ледзь. Што ж, у абставінах сённяшняга жыцця і без гарода не абысціся. Такая вось сітуацыя.

*Ул.інфармацыя*




# Мутны паток псеўда- «Байкала»

**Лета. Спёка. Шклянка напою. Кішэчная палачка. Нацыянальная катастрофа. Па меркаванні буйнейшых вытворцаў безалкагольных напояў, " заразіць сёння насельніцтва пры той колькасці няякасных безалкагольных напояў, якія прадстаўлены на паліцах крам – элементарна." Як лічыць камерцыйны дырэктар СП ААА "Аква Трайпл" Уладзімір Сіманаў, калі б у Беларусі існаваў такі кантроль за якасцю напояў, як на Захадзе, 80% фірм, якія займаюцца вытворчасцю безалкагольных напояў, спынілі б сваё існаванне.**

Калі па колькасці абсалютнага алкаголю на душу насельніцтва (9,6 л) Беларусь даўна перагнала Еўропу, то па колькасці безалкагольных напояў мы адсталі на сотні літраў. Украіна вырабляе 25 л, ЗША –200, Германія – 246, а Беларусь – усяго 14. Хаця вытворчасць "каляровых" і мінеральных вод павялічваецца: у мінулым годзе было выпушчана 14,2 млн. дал безалкагольных напояў ( рост –12 %), мінеральнай вады –14,6 млн. (12,8%). Асноўная доля рынку (78%) належыць прадпрыемствам "Кока-Кола", "Аква Трайпл", "Дарыда" і іншым. Але, нягледзячы на яўную перавагу, вытворцы гавораць аб засіллі вод дробных фірм, якім гандлёвыя прадпрыемствы аддаюць перавагу, а не лідэрам рынку. Таксама спецыялісты адзначаюць растучы паток расійскіх вод і таксама ў асноўным няякасных. Прыкладам, напоі "Фіеста-Тархун" альбо "Фіеста-Байкал" расійскай фірмы "Пэпсіка" не маюць нічога агульнага з вядомымі проста "Тархунам" і "Байкалам". Але ў Расіі сёння гэтыя назвы запатэнтаваныя і мутны паток псеўда-"Байкала" памкнуў да нас. І, як заяўляюць у канцэрне "Белдзяржхарчпром", з безалкагольнымі напоямі нас чакае тая ж сітуацыя, як і з півам. У мінулым годзе расійскіх безалкагольных напояў было імпартавана на 1,4 млн. долараў.

Буйныя вытворцы мяркуюць, што ў краіне няма жорсткага кантролю за адкрыццём вытворцаў, і разліваць ваду сёння можа хто заўгодна і адкуль заўгодна, ледзь "не з кароўніка". Да такіх прадпрыемстваў чамусьці не прад'яўляюць ніякіх патрабаванняў санітарныя службы, і вада " за пяць капеек" упэўнена выціскае больш дарагія і якасныя напоі. Некаторыя спецыялісты лічаць, што такія воды трэба ўвогуле ўбраць з паліц альбо выдзеліць ім асобныя паліцы ў крамах, таму што напоі з цукразамяняльнікамі не рэкамендавана піць цяжарным жанчынам і дзецям маладзей 16 гадоў.

Яшчэ адна праблема – неплацяжы гандлю. " Калі б тыя 600 прадпрыемстваў, якія нам павінны, — гаворыць адзін з вытворцаў, — разлічыліся з намі, то ў палове з іх мы паставілі б халадзільнікі". А так нам даводзіцца піць цёплыя, амаль гарачыя "прахаладжальныя напоі". А калі хочацца піць, няма ніякай розніцы, хто і адкуль разліў ваду.

*Марына Гуляева*

# Вада забірае маладых

**Трагічным стаў пачатак летніх канікул. За адзін тыдзень – двое дзетак ўтапіліся ў азёрах Глыбоцкага раёна.**

Кірпічэнка Дзіма, другакласнік Падсвільскай СШ, утапіўся 30 мая ў возеры "Алойсберг". У возеры "Бярозаўскае" ўтапіўся вучань дзевятага класа Залесскай СШ Шэмель Вадзім. Трагедыя адбылася 5 чэрвеня. Бяда і боль застануцца ў гэтых сем'ях назаўсёды.



Напярэдадзе – цудоўныя летнія дзянькі. Азёры Глыбоччыны сваёй чысцінёй і празрыстасцю вабяць адпачываючых. Прыглядзіцеся, у тым ці іншым месцы – кампаніі падлеткаў, хлапчукоў, якія гатовы цэлы дзень не вылазіць з вады. А дзе ў гэты час іх бацькі, ці ведаюць, як праводзяць час іх сын ці дачка? Так, у большасці бацькі працуюць, а дзеткі цэлы дзень без нагляду дарослых. Тады такое пытанне: а хто з вас, паважаныя бацькі, ведае загадзя, што дзеці пойдуць сёння купацца? А ці ёсць у вас упэўненасць, што яны добра плаваюць і побач будзе той, хто зможа выратаваць, калі спатрэбіцца дапамога. Вада вельмі каварная. І з-за звычайнай сударагі яна можа загубіць нават плаўца-разрадніка. Чаму вы, паважаныя дарослыя, часцей за ўсё глядзіце на гэта скрозь пальцы, рызыкуеце сваімі дзеткамі. Двое непаўналетніх, якія ўтапіліся ў нашым раёне, для аднаго тыдня летніх канікулаў – гэта вельмі многа. Хай даруюць бацькі гэтых дзетак, што яшчэ раз узкалыхнулі ў іх сэрцах нясцерпны боль. Але хацелася б звярнуцца да ўсіх, хто пакідае сваіх сыноў і дачок адных, адпраўляе іх на лета ў вёску. Ваша ўвага, ваша дасведчанасць дапаможа пазбегнуць бяды. Самае горкае ў гэтым жыцці, калі бацькам прыходзіцца хаваць сваіх дзяцей. Давайце будзем пільнымі, і тады лета сапраўды парадуе усіх цудоўным адпачынкам.

На жаль, дарослыя таксама аказваюцца бяссільнымі і гінуць у вадзе. Так, з сакавіка адбылося пяць няшчасцяў. Гэтым летам утапілася ўжо двое дарослых. 5 чэрвеня ў возеры "Шкіндарава" ўтапіўся пенсіянер 1916 года нараджэння, які прыехаў памыцца. А ва ўсіх папярэдніх выпадках мужчыны тапіліся ў нецвярозым стане. Няхай гэтыя лічбы стануць папярэджаннем і доказам таго, што нават падыходзіць на падпітку да вады небяспечна.

*Далідутка Г. А., начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх*

**Першы тыдзень лета прынёс усплеск дробных крадзяжоў. У большасці выпадкаў прычынай стала нядбайнасць саміх пацярпелых.**

# Крадуць тое, што "дрэнна ляжыць"

Пакідаюць асабістыя рэчы без нагляду, а прападзе – звяртаюцца ў міліцыю. Зараз актуальнымі сталі крадзяжы веласіпедаў. Але для гаспадароў двухколай тэхнікі хацелася б сказаць. За апошнія гады быў толькі адзін выпадак, калі скралі абамкнуты веласіпед, злодзеяў жа ўсё роўна знайшлі. Крадуць веласіпеды, кінутыя без нагляду і без замка.

Яшчэ адна бяда – крадзёж каляровых металаў. Вёскі Бараны і Шыпы сталі прыцягальнымі для вароў. Жыхары вёсак бачылі зялёны "Масквіч", бачылі ў ім цыганоў. Нашы супрацоўнікі высветлілі, што гэта цыганы з Крулеўшчызны. Маладыя, нахабныя, дзёрзкія заходзяць у двор, хватаюць біклагі, здымаюць алюміневыя платы, нават калі на вуліцы яшчэ відна. Часцей за ўсё крадзенае ператвараецца ў лом і здаецца ў дзяржаўныя нарыхтоўчыя пункты ў Докшыцкім раёне. Пабітыя біклагі, гаршкі, парублены дрот не даюць нам магчымасці высветліць, чый гэта метал.

Стала шмат крадзяжоў, якія выводзяць следчыя органы на цыганоў. Канечне, не варта абвінавачваць усіх цыганоў, але факты аказваюцца бясспрэчнымі. Жанчыны-цыганкі ходзяць па дамах, просяць дапамогі. Даверлівыя і міласэрныя гаспадары дапамагаюць, пускаюць у дом. Як толькі з'яўляюцца цыганы, высвятляецца кража. Прычым, крадуць і каштоўныя рэчы – золата, упрыгожванні. Напрыклад, апошняя кража завушніц і залатога кальца, на думку гаспароў, учынена суседам. Прапажа высветлілася толькі праз тыдзень, а ў той час, як высветлілася, у доме пабывала цыганка. Таму хацелася б папрасіць нашых землякоў, каб паведамлялі ў міліцыю аб усіх выпадках з'яўлення і супрацьпраўнай дзейнасці цыганоў на тэрыторыі нашага раёна. Толькі з вашай дапамогай мы зможам прыняць дзейсныя меры і захаваць вашу маёмасць.

*Пратас А.В., начальнік аддзялення аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС,маёр міліцыі*

# Беражыце маёмасць

**Надыйшло доўгачаканае лета. Цудоўны час для адпачынку. Шкада, што для абсалютнай большасці жаркія дзянькі – гэта ўласныя соткі і барацьба за ўраджай. Але ж для сапраўднага адпачынку сёння ёсць шмат магчымасцей, якія звязаны з выездам у лепшыя куточкі нашай краіны ці за яе межы, што зараз стала таксама рэальна. А як жа кватэра, як яе пакінуць без нагляду? Час ліхі і можна вярнуцца з адпачынку і не знайсці ў кватэры ўсяго, што было нажыта. Вось тут да Вас на дапамогу прыйдзе служба аховы.**

Нашым кліентам для абсталявання прыватных кватэр мы прапануем новую сігналізацыю, цалкам камп'ютэрызаваную, аўтаматызаваную сучасную сістэму "Алеся". Усе, хто меў магчымасць карыстацца старой сістэмай, ведаюць, колькі клопатаў дастаўляе ахова па дазвону. З новай сістэмай "ставіць" і "здымаць" з аховы па тэлефоне не трэба. За вас гэта зробіць спецыяльны чып, які мае індывідуальны код. Дастаткова прыкласці яго да ўстройства доступу, як інфармацыя аўтаматычна патрапіць на наш камп'ютар. Такі чып выдаецца кожнаму члену сям'і і мае свой код. Гэта прыстасаванне бацькі могуць выкарыстоўваць для выхавання і сачыць за прыходам сваіх дзяцей, а раўнівая жонка ці муж – за сваёй палавінай. Канечне, гэта жарт, а на самой справе пакуль ніводная кватэра, якая знаходзіцца пад нашым наглядам не была абкрадзена.

Яшчэ адна перавага новай сігналізацыі – гэта наяўнасць аўтаномнага сілкавання. Яна дазваляе на працягу двух сутак сачыць за кватэрай, калі ў ёй адключана электрычнасць. Але да гэтага часу на такі працяглы тэрмін электрычнасць у нас не знікала.

Для гаспадароў, якія дбаюць аб сваёй маёмасці, можа прынесці карысць сучасная супрацьпажарная сігналізацыя, якая працуе кругласутачна і рэагуе нават на дым цыгарэты.

Па жаданню кватэра можа быць абсталявана датчыкамі на рух, разбіццё шкла, кнопкамі трывожнасці. Апошняе прыстасаванне ўсталёўваецца ў любым месцы кватэры і дапаможа гаспадару паведаміць да нас аб разбойным нападзе, а кнопка падцвярджэння дасць сігнал, калі злачынцам удалося сілай прымусіць уладальніка чыпа адчыніць дзверы ўласнай кватэры.

Сёння нас пытаюць, калі можна будзе абсталяваць сігналізацыяй гаражы, гаспадарчыя пабудовы. Справа ў тым, што АСАС "Алеся" можа быць устаноўлена толькі тады, калі ў кватэры ёсць тэлефон. Да канца года мы плануем пачаць выкарыстанне радыёаховы. Гэта расшырыць нашы магчымасці, бо такой сігналізацыяй можа быць абсталявана любое памяшканне, дзе няма тэлефона. Прыёмна-кантрольны прыбор будзе выдавацца ў карыстанне па дамове, таму гэта сігналізацыя павінна стаць не толькі больш зручнай, але і больш таннай.

*І. Канышаў, старшы інспектар-інжынер СТСА Глыбоцкага раённага аддзела аб'яднання "Ахова" пры МУС РБ*

# Трагічны выбух у Паставах

Паступова і нашы раней ціхія гарадкі становяцца падобнымі да сталіцы, буйных цэнтраў, дзе стрэлы і выбухі ўжо даўна не рэдкасць. Крыміналізацыя грамадства, пра што мы так шмат чытаем і чуем, захапляе і нашы мясціны. Нашы людзі, як кажуць, на сваёй скуры зведваюць новыя павевы часу. Некалькі месяцаў назад Паставы былі літаральна ўзбударажаныя весткай аб тым, што адна з сямей гараджан падверглася дзёрзкаму і жорсткаму нападзенню рабаўнікоў у масках. Якія, звязаўшы мужа і жонку, доўга катавалі іх, вымагаючы грошы і каштоўнасці. Прычым, як у нейкім крутым баявіку выкарыстоўвалі для катавання накалены прас, палівалі раны воцатам. Рабаўнікі нічога не дамагліся, забралі толькі невялікую суму грошай, якая была на той момант у хаце. Відаць, альбо памыліліся адрасам, альбо нехта няправільна навёў "гастралёраў". А што гэта былі гастралёры, амаль не выклікае сумнення. Бо сваіх такіх "адмарозкаў" правінцыя яшчэ не ведала. Хаця, час ідзе і ўсё, магчыма, яшчэ наперадзе.

І вось новы выпадак, які гаворыць аб надыходзе ў наша ціхае жыццё новых часоў.

8 чэрвеня на ціхай вуліцы Крупскай у Паставах прагрымеў выбух. Узарвалася баявая наступальная граната. Наколькі стала вядома з кампетэнтных крыніц ,да жыхара гэтай вуліцы С. прыйшоў знаёмы Б. Пагаварылі мужчыны, а потым госць і кажа:

—Ты бачыў калі-небудзь, як дзейнічая баявая граната?

—Не.

—Ну дык паглядзі.

Госць дастаў гранату, патрымаў яе ў руках – і вырваў чаку…

Самога грамадзяніна Б. літаральна пашкуматала. Пацярпеў і гаспадар дома. А галоўнае, цяжкія раненні атрымаў яго адзінаццацігадовы сын. Хлопчыку ўжо зроблена аперацыя. Стан яго нармальны.

Граната разарвалася на парозе дома, таму будынку асаблівых пашкоджанняў не прычынена.

Што гэта – звычайнае глупства і неразуменне наступстваў ці нешта іншае? На пытанне адкажа следства.

Вось адказ на пытанне, адкуль узялася ў цывільнага чалавека баявая граната , знайсці будзе цяжэй. Хаця Паставы ў недалёкім мінулым былі спрэс ваенным гарадком, тут знаходзілася шмат вайсковых часцей, у якіх, канечне ж, захоўвалася нямала зброі. Ды і іншых крыніц яе набыцця сёння хапае.

А што далей? Пажывём – пабачым.

*Алесь Касцень*

# Што і як будуем?

Глыбокае, калі ўзяць наш паўночна-заходні рэгіён, значна вылучаецца з гарадоў, якія размешчаны побач. У параўнанні, напрыклад, з Шаркоўшчынай, Паставамі, Докшыцамі ў нашым горадзе значна чысцей і ўтульней. І гэта, безумоўна, заслуга цяперашніх мясцовых улад. Глыбокае апярэдзіла сваіх суседзяў і развіццём прыватнага бізнесу. Акрамя вялікага нядзельнага кірмаша працуе штодзённы і па свайму размаху падобны на тыя, што працуюць толькі раз у тыдзень у бліжэйшых райцэнтрах. Апошнім часам прыватнікі будуюць і адчыняюць новыя крамы, цырульні і г. д. Гэта вельмі выдатна, бо спадзявацца на дзяржаўны сектар няма сэнсу. Прыклад – доўгабудоўля ў раёне МКК – універсам, які павінен быў задаволіць пакупнікоў гэтага мікрараёна. Але гэты "помнік сучаснай архітэктуры", напэўна, будзе ўпрыгожваць наш горад у такім выглядзе яшчэ не адзін год. Хутчэй за ўсё да туль, пакуль не пярэйдзе ў прыватныя рукі.

У мінулым годзе бадзёра пачалося будаўніцтва ў цэнтры горада, не ў горшым яго месцы, кавярні-бара нейкім прадпрымальнікам Ласём. Але, на мой погляд, пасля зняцця з пасады намесніка старшыні райвыканкама па будаўніцтву Мацібыцкага і ўзбуджэнні супраць яго судовай справы будоўля заціхла, калі ўвогуле не спынена. Можа ўзнікнуць пытанне: чаму?

Я змог бы выказаць сваё меркаванне, але ж на гэта пытанне адказ ведае кожны. А калі не ведае, будзе нагода задумацца і прыйсці да высновы.

*Я. Берніковіч*

Ідыёцтвы нашага жыцця

# Другія цёшчыны хаўтуры

**Беларускага чалавека ўвогуле дзіўным не назавеш. Ён прадказальны, спакойны, ураўнаважаны і, як са слоў былога намінальнага кіраўніка нашай дзяржавы спадара Шушкевіча стала вядома – памяркоўны. Гэта ўсё так. Ды толькі не такія мы ўжо і аднолькавыя. Мы – розныя.**

Ён называе сябе памагатым ва ўсякай справе. І сапраўды многае ўмее і добра робіць. Асабліва па сельскай гаспадарцы, асабліва там, дзе патрабуецца сіла, спрыт, проста настойлівасць. Афіцыйна нідзе не працуе. Жывучы ў вёсцы Славічы, вандруе па наваколлю – Глыбоцкі, Пастаўскі, Докшыцкі ды Мядзельскі раёны. Тут у яго шмат сяброў ды знаёмых. І шмат каму ёсць дапамагчы, калі ў руках маладая і вясёлая яшчэ кабылка, плуг ды барана, а да іх і каса, і іншае сялянскае начынне. Аплата працы вядома якая. Але яна яго задавальняе.

А вось першую гісторыю пра Сцяпана пачуў я ад людзей. Працаваў ён тады трактарыстам у мясцовым калгасе. Аднойчы восенню спяшаўся (спазняўся) на машынны двор калгаса. А там ужо ўсе сабраліся – механізатары, механік ды інжынер. І сам старшыня. Старшыня і вырашыў насміхнуцца над недарэкай-трактарыстам, які прыйшоў на працу яўна з добрага падпітку.

— Ну вось, — кажа, — дзе гэта ты так учора набраўся, што нават уся ватоўка ў гнаі?

Сцяпан крутануўся, агледзеўся. Потым хуценька скінуў ватоўку і паглядзеў на яе. Чыстая.

А вакол ужо ўсе рагаталі. Падначыў старшыня свайго не вельмі геглага механізатара.

Але Сцяпана раптам, як расказвалі сведкі, панесла.

— Эх, старшыня, табе ўсё смешкі. А ў мяне сапраўднае гора. Цешча ночку памерла.

— Як памерла?

— А вельмі проста. Захрапла – і каюк. Няма цешчы. Аджыла…

— Яна ж яшчэ ўчора ў краме была.

— Ну і што, што ў краме. Сёння ты ў краме, а назаўтра ў яме, — не спыняўся Сцяпан. — Сярод начы стала дрэнна. Вякнула, паветра хапанула – і гатовая.

— А як жа ты?

— Што я? Вось да вас, старшыня, з просьбай. Трэба дошак на труну. Ды і авансу нейкага. Грошы ёсць, але пакуль мы тыя грошы з кніжкі здымем…

— Няма размоў. Будуць дошкі, а сусед твой па трунах майстар, зробіць хуценька. Бяры вось запіску, ідзі ў кантору да бухгалтара. Аванс ён выдасць.

Адступаць не было куды. Сцяпан пацёгся з лёгкай дрыжынкай у каленях у калгасную кантору. Там бухгалтар доўга вывучаў запіску почарк старшыні –няма сумненняў. Але ж Сцяпанава цешча была такой моцнай яшчэ старой. І ўсё-такі, пахукаўшы, пакрактаўшы, ён падпісаў авансавую ведамасць.

Атрымаўшы грошы, Сцяпан як найхутчэй пакінуў кантору. Цяпер ён быў на кані. Але аднаму адзначаць уяўныя цешчавы хаўтуры было неяк нязручна. Сустрэў аднаго сябрука. Потым другога…

Калі выйшаў на вуліцу, каб ужо кіраваца да ўласнай сядзібы, ззаду забурчэў трактар.

— Сцяпан! Куды дошкі везці? Да суседа ці прама да цябе?


Фота IREX/ProMedia

Сцяпан схамянуўся. Гэта ж чаго ён натварыў.

А вязі ты іх, браток, назад. Хаўтуры адмяняюцца…

На наступную раніцу ўся вёска ўжо ведала пра блазноту Сцяпана з яго няўдалымі спробамі развітацца з цешчай. Дома ўчыніліся такія нецiхоты, што ён мусіў уцякаць на машынны двор раней ранага.

А там старшыня. І ўчырванелы рынуўся адразу да бедака.

--Ты што ж гэта робіш? Жывых хаваць сабраўся? Я з райцэнтра еду, думаю: трэба цётку адведаць. Даяркай некалі працавала, шкада. Пад'язджаю да хаты, а тая нябожчыца двор падмятае, лісця, бач, нападала. Я ледзь не абамлеў, пакуль не зразумеў, што гэта чмо ўсё прыдумала. Ну, Сцяпан, аванса ты ўжо не вернеш, ведаю. Але прэміяльных я цябе пазбаўляю.

Гэта даўняя гісторыя. А нядаўняя такая. Пражыўшы яшчэ некалькі год пасля няўдалых хаўтураў, цёшча Сцяпана ўсё-такі развіталася з гэтым светам. "Склеіла ласты", — як не вельмі пачціва сказаў пра яе ён сам. А потым расказаў пра сябе ўжо сам яшчэ адну гісторыю, звязаную таксама з хаўтурамі.

"Прыехалі дочкі, зяці, навезлі ўсяго. У маёй жонкі былі нейкія запасы. Адным словам, пахавалі старую не па першаму разраду, але так як і дараіць на вёсцы ў адпаведнасці нашаму менталітэту ( гэта слова Сцяпан вымавіў з асаблівай асалодай – відаць нядаўна пачуў і зразумеў яго сэнс). Ну, пахаваць- пахавалі, але ж жыццё цягнецца. Выпіць хачу. І ведаю, што ў жонкі засталося ад хаўтур самагонкі. Не можа не застацца. Гарэлка там і віно разышліся – а самагонкі павінна быць. Думаю, пастараецца недзе прыхаваць, каб я не бачыў. А я ж таксама не дурань, пакрыху цікую за ёю. І вось сяджу аднойчы ля тэлевізара, чакаю міжнароднага футбола. Пакажуць ці не? У праграме тэлебачання ёсць, а на экране нейкая лухта. І пад акном мільганула нейкая цень. Я да фіранкі: жонка. Так азіраецца на вокны, а пад фартухом нешта ёмістае трымае. Я не высоўваюся, але палюю – куды яна. А яна ў куст парэчак. Пакорпалася там і ідзе назад ужо пусценькая. "Ага, — думаю, — тут нешта не так". Пайшла яна на сяло, а я ў той куст.

Ёсць! Ёсць даражэнькая біклага літраў на дзесяць. І поўненькая самагону. Хуценька я яго спарадкаваў, пераліў у свае схованкі, а замест напою туды – вады.

Вечарам пытаюся: " Ці засталося там што цешчу памянуць?" "Няма, усё скончылася."

Ну і добра, на гэтым скончым допыт. Я за дзверы шасць – нібыта да суседа – памянуў любімую цешчу.

Так нейкі тыдзень вялося. Потым выявіла такі, следапыт, мае схованкі. Подбегам да куста парэчак. Нюхала-нюхала – самагонкай смярдзіць. Пакаштавала – вада. Ну і было ж мне перцу. Але пару бутэлечак я ўсё-такі агарнуў, прыхаваў. Хочаш, адна засталася?"

Такая вось немудрагелістая гісторыя. Гісторыя нашай сучаснай вёскі. Дзе пераважаюць старыя бабулі і вельмі няшмат старых дзядкоў. Дзе мужчыны дажываюць у пераважнай сваёй большасці толькі да пенсійнага ўзросту, дзе па нядаўніх словах высокага чына з Міністэрства ўнутраных спраў расквінела самагонаварэнне на продаж, і нічога з гэтым не зробіш. Нешта зрабіць можна заўсёды, вось толькі не даходзяць да гэтага ва ўлады рукі. А найперш – вёска сёння на раздарожжы. У які бок ёй ісці, не ведае. Ды і самі павадыры таксама не ведаюць. Пакуль што кола коціцца ў ранейшай каляіне. Але і каляіна загразае, і кола развальваецца. А людзі?

Алесь Касцень

# Кантрольная праца
## для будучага ліцэіста-2002

**Ніжэйзмешчаны матэрыял адрасуецца вучням будучага ліцэйскага матэматычнага 10 класа глыбоцкай СШ №3. Калі ласка, выканайце гэтае заданне ў асобных сшытках і прынясіце ў кабінет 304 да 20 жніўня. Вядома ж, прапанаваныя задачы могуць зацікавіць вучняў з іншых школ. Мяркую, праца над імі зробіць ваш летні адпачынак найбольш змястоўным, а, мабыць, і цікавым.**

**Жадаю поспехаў!** *І.С.Храпавіцкі, настаўнік матэматыкі*

1.Прывядзіце прыклад функцыі, вызначанай на мностве $[-2; -1] \cup [1; 2]$.

2. Сума першых $n$ членаў арыфметычнай прагрэсіі роўна $S_n=an^2+bn$, дзе $a$ – нумар дня ў месяцы, калі Вы нарадзіліся, $b$ – нумар месяца. Знайдзіце першы член і рознасць гэтай прагрэсіі.

3. Пункт $M$ рухаецца па каардынатнай плоскасці так, што модуль рознасці адлегласцей ад яго да пунктаў $A(1; 1)$ і $B(-1; -1)$ роўны 2.

а) Дакажыце, што пункт $M$ не трапіць на восі каардынат.

б) Якую лінію акрэслівае пункт $M$?

в) Колькі пунктаў з цэлалікавымі каардынатамі належаць гэтай лініі? г) Чаму роўна найменшая з адлегласцей $MB$?

4. Знайдзіце чатырохзначны лік, у 66 разы большы за здабытак сваіх лічбаў.

5. Бісектрысы вуглоў $A$ і $D$ паралелаграма $ABCD$ падзяляюць старану $BC$ на тры роўныя часткі. Які найбольшы перыметр можа мець $ABCD$, калі $AB$=10 см?

6. У двух брыгадах больш за 27 чалавек. Колькасць людзей у першай брыгадзе больш чым удвая перавышае гэты лік для другой брыгады, зменшаны на 12. Колькасны ж склад другой брыгады больш у 9 разоў за колькасць людзей у першай брыгадзе, зменшаную на 10. Колькі чалавек у кожнай брыгадзе?

7. На адрэзку $AB$ існавала цывілізацыя. Яе прадстаўнікі - Пункты - былі разумнымі істотамі. Адрэзак быў вялікі, істоты вельмі маленькімі; і месца хапала на ўсіх... З цягам часу істоты пачалі абдумваць праблему: як пакінуць родны адрэзак і выйсці ў адкрыты Космас - у Плоскасць? Спярша знайшлі сярэдзіну $C$ адрэзку. Знакамітыя навукоўцы прапанавалі пабудаваць у Плоскасці раўнабедраныя прамавугольныя трохвугольнікі. Яны знайшлі спосаб паслаць касмічны карабель у сярэдзіну адрэзка $A_0B_0$ - пункт $M_0$. Гэты праект прынялі з захапленнем, але ён ледзь не праваліўся. Трохвугольнікі будавалі розныя фірмы няўзгоднена -- у розных Паўплоскасцях стасоўна прамой



Рыс.1

$AB$. Таму, касмічны карабель застаўся ў сярэдзіне адрэзка $AB$ (рыс.1). Памылку выправілі і для пэўнасці істоты пастанавілі лётаць пакуль толькі ў Верхнюю Паўплоскасць (рыс.2). Наступнае пакаленне, аднак, не захацела абыходзіцца



Рыс.2

пунктам $M_0$. Маладыя навукоўцы замянілі сярэдзіну $C$ адрэзка адвольным пунктам $C_1$, пасля чаго зноў пабудавалі ў Плоскасці раўнабедраныя трохвугольнікі і паслалі касмічны карабель у сярэдзіну $M$ адрэзка $A_1B_1$. Як жа яны былі ўражаны, калі аказалася, што карабель зноў трапіў у пункт $M_0$ (рыс.3). Большасць навукоўцаў



Рыс.3

вырашылі, што супадзенне ёсць непазбежнай уласцівасцю Плоскасці. Яны пачалі шукаць іншыя спосабы выхаду ў адкрыты Космас з дапамогай раўнабедраных трохвугольнікаў (пэўна тэхнічныя сродкі цывілізацыі не дазвалялі другіх метадаў). Урэшце ім удалося скарыстаць пункт $C_1$ у плоскасці, які не належыць Адрэзку $AB$. Зноў пабудавалі раўнабедранныя трохвугольнікі (рыс.4). Было шмат прапаноў, аргументаваных па-рознаму, як выбіраць пункт $C_1$ у Плоскасці. Аднак, найвялікшы скептык заявіў, што спрэчкі не маюць



Рыс4

падставы, бо сярэдзіна $M_1$ адрэзка $A_1B_1$, куды паляціць карабель, і ў гэтым разе супадзе са старым пунктам $M_0$. Ягоныя словы былі ўспрынятыя як недарэчны жарт. Цывілізацыя выдаткавала вялікія грашовыя сродкі, каб абвергнуць скептыка практычна. Выбралі два розныя пункты $C_1$ і $C_2$ у Верхняй Паўплоскасці, пабудавалі адпаведныя раўна-



Рыс5

бедраныя трохвугольнікі. Потым паслалі два касмічныя караблі ў сярэдзіны $M_1$ і $M_2$ атрымаваных адрэзкаў (рыс.5). Адно віртуознае майстэрства пілотаў уратавала караблі ад сутыкнення!. Скептык жа заявіў, што караблі пазбеглі сутыкнення толькі праз недакладнасць пабудаваных трохвугольнікаў. ***Дык чаму ж адбылося супадзенне пунктаў $M_0$, $M$, $M_1$ і $M_2$?***

# Музычныя навінкі глыбоцкага кірмаша

На жаль, у Глыбокім, хоць і ў час яго дзіўнага роста камерцыйнай актыўнасці, не так шмат кропак, дзе можна набыць свежую музыку. Раней у самым цэнры горада стаяў вялікі кіёск, дзе можна было замовіць, запісаць альбо набыць самую розную музыку, як з-за акіяну, так і з постсавецкіх краін. Зараз жа таго, кіёска няма, але ёсць "СОЛО", "АВС", "хітрушка" і вялікі нядзельны кірмаш, куды і сцягваюцца падлеткі з усяго раёна за касетнымі навінкамі.

Сёння я зраблю невялікі агляд альбомаў, якія паз'явіліся ў адносна нядаўні час у нашых гандляроў.

### Eminem "Eminem Show"




Не магу не пачаць з альбома, які зараз займае першую пазіцыю ў Амерыцы і ўжо стаў самым хуткапрадавальным дыскам гэтага года. Канечне, я маю на ўвазе "Eminem Show" усім вядомага белага рэпера Эмінема. Я думаю, што вы бачылі на нашым кірмашы касеты з выявай Эмінема з нажом прыстаўленым да ўласнай скроні. Дык вось, гэта і ёсць новы альбом суперзоркі. У сапраўднасці ж вокладка альбома выглядае зусім не так – Маршал Мэтэрс (сапраўднае імя музыканта) на ёй сядзіць у задуменнай позе ў цэнтры прыгожай старажытнай сцэны ў чырвоных танах. Але, як вядома, ліцэнзійнай прадукцыі ў нас фактычна не прадаецца, таму і не здзіўляйцеся, што ў беларускім варыянце Эмінем глядзіць на вас са свайго дыска з нажом. Хоць з вокладкай піраты і перастараліся, але з музыкай нібы ўсё ў парадку. Колькасць трэкаў такая ж, як і на ліцэнзійным варыянце, усё на месцы. Між іншым, у нас, у Глыбокім, як бы смешна гэта ні гучала, прадаюць нармальныя, хоць і пірацкія копіі, а вось у Наваполацку мне не так даўна спрабавалі збыць касету з тым жа "Eminem Show", дзе замест поўных песняў выканаўцы, былі толькі нарэзкі з прыпеваў.

Але час разглядзець сам альбом. Нашы фэны белага "ман'яка" Сліма Шэйдзі будуць здзіўлены. Эмінем пасур'ёзнеў! Больш таго, гэта самы сур'ёзны дыск у яго рэпертуары. Калі раней рэпер выдумляў розныя неверагодныя гісторыі і высмейваў зорак поп-музыкі, зараз ён распавядае захапляльную жахлівую гісторыю свайго ўласнага жыцця. А яму, паверце, ёсць пра што расказваць. Бацьку ён не ведаў, жыў з маці, якая яго не любіла, лічыла яго хворым і пічкала яго пігулкамі. А калі памёр яго дзядзька Роні (скончыў жыццё самагубствам) яго маці сказала сыну: "Лепш бы ты быў на яго месцы". Сям'я ўвесь час пераязджала з месца на месца, таму сапраўдных сяброў у Эма ніколі не было. І менавіта ў час школы, Эмінем прыйшоў да рэп-музыкі. Слава прыйшла не адразу, але, калі прыйшла, пачаліся новыя праблемы. Вы можаце такое ўявіць, на Эмінема падалі ў суд фактычна адначасова яго маці, жонка (ужо былая) і бабуля Дэбі. Разам з тым на яго абрушыўся шквал прагэстаў, забаронаў і г.д. За пару гадоў Маршал ператварыўся ў аднаго з самых скандальных творцаў сучаснасці. І на "Eminem Show" ён распавядае пра ўсё тое, што давялося яму перажыць.

Каб сапраўды ацаніць творчасць рэпера, трэба добра валодаць англійскай мовай. Сучасныя крытыкі заҳада параўноўваюць лірыку Эмінема з класічнай паэзіяй Роберта Бёрнса і Байрана. Эмінем ужывае вельмі складаную лексіку з медычных, юрыдычных галін і аздабляе ўсё гэта гутарковым сленгам. На новым альбоме сваю чытку музыкант даводзіць да дасканаласці. Крытыкі MTV, VH1, Amazom.com згаджаюцца, што Маршал стаў у адзін шэраг з вядучымі постацямі ў жанры – JZ, Nas, 2Pac і Biggie.

Складана вылучыць нейкія асобныя творы з дыска. Усё проста супер! "Cleaning out my Closet" – аўтабіяграфічны твор, павольны а ля "Стэн" і незвычайна прыгожы, "White America" – песня пра тое, што "ён бы ніколі не стаў такім папулярным, каб быў чорным", "When the music stops" – пра тое, што не варта блытаць музыку з рэальным жыццём. А на "Hailie's Song" Эмінем амаль усю песню спявае!!! Песню ж ён прысвячае сваёй дачцэ. Яшчэ адна рыса альбома – у параўнанні з мінулымі- - Эмінем фактычна ўсё робіць сам, сам спявае прыпевы, сам чытае, сам прадусуе.

Аматарам рэпа раю набыць нават не вагаючыся!




Tiamat "Judas Christ"

Аматары метала, напэўна, ведаюць гэты гурт. Ведаюць яны таксама тое, што мінула ўжо не меней як 5 гадоў, як Tiamat адыйшоў ад метала. І адразу ж прыцягнуў мора новых фанатаў, бо новы саунд атрымаўся выдатным. Металічны ледзяны вакал Ёгана Эдлунда цудоўна лёг на касмічны, дэпрэсіўны гук. Новы стыль ахарактарызавалі, як gothic rock, але ні "Deeper Kind of Slumber", ні "Skeleton Skeletron" не гучалі ў стылі "Лакрымозы", якую ў нас асацыююць з готыкай. Tiamat рабілі іншую музыку. Складаныя тэксты перакрыжоўваліся з узцяжаным Pink Floyd. Адно можна сказаць, што музыку яны рабілі змрочную і песімістычную.

Новы ж альбом, варта адзначыць, атрымаўся не цяжкім, але і не лёгкім. Ён атрымаўся розным! "Vote for Love" – гэта сапраўдны гатычны гімн кахання. "Выйдзі вонкі і прагаласуй за любоў!" – холадна спявае Эдлунд, спявае так, што робіцца ясна, што гэту мелодыю будуць скандаваць тысячы фанатаў на канцэртах, ад тынэйджэраў, што любяць HIM, да аматараў Ozzie Osbourne, з якім, дарэчы, Tiamat аднойчы гастралявалі. "Angel Holograms" – нябесны харал з халоднымі ноткамі Ёгана, "Too Far Gone" – апошняя песня на альбоме, пра тое "хацелася б сонца і святла, але ты задалёка зайшоў у цемру".

Параю аматарам паўночнай музыкі Скандынавіі, гурта HIM і готыкі. У сваім жанры гэты дыск выдатны! Адно, што не правяраў якасць на нашым кірмашы, бо сабе закачаў гэты альбом з Інтэрнэта.

### Vicious Crusade "Forbidden Tunes"

На дзіва, гэты мінскі гурт на нашым кірмашы прадстаўлены цудоўна. Хлопцы стварыліся ў нашым лінгвістычным універсітэце, так што мне асабіста яны блізкія яшчэ і як калегі па спецыяльнасці.

Штомесяц праз мае рукі, а дакладней вушы, праходзіць шмат




музыкі, у тым ліку і беларускай. Асабіста мяне раздражняе, калі складана зразумець, што там мармыча альбо скавыча вакаліст. Зразумець складана нават не з-за таго, што якасць запісу дрэнная, а з-за таго, што акцэнт гэтага "вакадзёра" такі моцны, што гэта ўжо не англійская мова, а нейкая "англійска-беларуская" трасянка. Такіх я наслухаўся, напрыклад, на штогадовай Рок-Коле. "Вішасы" ж спяваюць прафесійна, ясна і прыгожа! Пачыналі яны з вельмі цяжкіх варыяцыяў метала, уражвалі сваёй агрэсіяй і злосцю. Новы ж дыск атрымаўся эксперыментальным і наватарскім. Цудоўна пасуе да канцэпцыі дыска скрыпка. У некаторых месцах здаецца, што гучыць нейкі цяжкі фолк, часам пахне трэшам, часам, не паверыце... N.R.M. Магчыма, хлопцы шукаюць выхад на больш шырокую аўдыторыю, чымсьці блэк-дэзсутарэнні. Магчыма, з імі адбываецца тое, што некалі здарылася з Tiamat. Наступны альбом Vicious Crusade крытыкі закляймяць "готыкай" ці "індзі". Але не ў гэтым справа! Перад вамі дыск аднаго з лепшых рок-гуртоў Беларусі! Набывайма!

*А. Храпавіцкі*

# Беларускія салдаты ў новым абмундзіраванні

Форма новага ўзору пачала паступаць у беларускую армію Ję Ужо атрымалі салдаты і афіцэры 1-й матастралковай роты 11-й механізаванай брыгады, што дыслакуецца ў Слоніме (Гродзенская вобласць). Новае абмундзіраванне адрозніваецца ад ранейшага рысункам камуфляжу, больш якасным матэрыялам, шэўронамі УС. Упершыню ў камплект уваходзіць жылет з вялікай колькасцю кішэняў -- для асабістых пакетаў, радыёстанцыі і прыстасаванні для гранат, магазінаў для патронаў. Жылет заменіць цяперашнія сумкі.

Таксама камандзірам падраздзяленняў выдадзены індывідуальныя радыёстанцыі і калімагарныя лазерныя прыцэлы.

Як паведамілі ў прэс-службе Міністэрства абароны Беларусі, поўнасцю новую форму ўсе падраздзяленні беларускай арміі атрымаюць да 2005 года.



*Фота IREX/ProMedia*

# Новы закон пагражае свабодзе вернікаў

31 мая шэраг саюзаў пратэстанцкіх цэркваў звярнуліся ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі з нагоды разгляду законапраекта "Аб унясенні змен і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацый".

Зварот падпісалі кіраўнікі Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў, Саюза хрысціян веры евангельскай і Аб'яднання абшчын хрысціян поўнага Евангелля.

У звароце гаворыцца, што праект закона, які быў прыняты Палатай прадстаўнікоў у першым чытанні, у выпадку яго канчатковага прыняцця ў такім выглядзе, істотна абмяжуе правы грамадзян Беларусі ў галіне свабоды сумлення.

Яшчэ раней названыя хрысціянскія арганізацыі накіравалі свае прапановы і заўвагі ў Палату. Прававая ацэнка праекта закона была дадзена спецыялістамі Інстытута рэлігіі і права Расійскай Федэрацыі, якія прыйшлі да высновы аб неадпаведнасці некаторых яго палажэнняў міжнародным стандартам у галіне свабоды слова і веравызнання.

У прыватнасці, новы закон прадугледжвае наяўнасць 20 чалавек абавязковай умовай стварэння абшчыны. У іншым выпадку грамадзяне могуць быць прыцягнутыя да адказнасці за незаконную рэлігійную дзейнасць. "Што рабіць 10 вернікам, якія рэгулярна збіраюцца для сумесных малітваў і вывучэння Біблії ў вёсках беларускай глыбінкі?" – гаворыцца ў звароце. "Альбо будуць прыцягнутыя лепшыя традыцыі нашых продкаў і кожны чалавек у Беларусі зможа ажыццявіць свае правы на свабоду сумлення і веравызнання ў роўных і справядлівых умовах, альбо будзе створана глеба для напружанасці ў рэлігійнай сферы ў выпадку прыняцця закона ў прадстаўленай вам рэдакцыі".

*Вольга Мікалайчык*

# Пад кантролем

Пытанні кантролю за ходам уступных экзаменаў у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах Беларусі абмяркоўваліся 4 чэрвеня на нарадзе ў А.Лукашэнка. Прэзідэнт падкрэсліў, што ў гэтым годзе прыняты больш жорсткія меры па недапушчальнасці фактаў злоўжыванняў, і сама ўступная кампанія будзе знаходзіцца пад асабістым кантролем главы дзяржавы. Акрамя таго Лукашэнка паабяцаў, што да кантролю за ходам уступных экзаменаў будуць падключаны спецыяльныя службы. Ён даручыў старшыні Дзяржкантроля Анатолю Тозіку жорстка кантраляваць гэты працэс, выяўляючы любыя парушэнні. Кіраўнікам ВНУ рэкамендуецца "готовиться к сюрпризам, которые будут".

*«Хартыя 97»*

Амаль сенсацыя!

## Дзівосны і страшэнны звер

# Васіліск

## і па сённяшні дзень абазначаецца ў Глыбокім!

**Васіліск -- пачвара з галавой пеўня, вачамі жабы, крыламі кажана і целам цмока. Ад яго позірка камянее ўсё жывое. Васіліск нараджаецца з яйка, якое знесена сямігадавалым чорным пеўнем (у некаторых крыніцах з яйка выседжанага жабай) у цёплую гнойную кучу. Паводле падання, калі Васіліск убачыць сваё адлюстраванне ў люстэрку ён памрэ. Месцам жыхарства Васіліскаў з`яўляюцца пячоры, яны ж -- яго крыніца харчавання, паколькі есць Васіліск толькі камяні. Пакідаць свой прыстанак ён можа толькі ўночы, паколькі не пераносіць крыка пеўня. І яшчэ ён асцярагаецца аздінарогаў таму што тыя занадта "чыстыя" жывёлы.**

Калі падыходзіш да глыбоцкага Кафедральнага сабора, звяртаеш увагу на дзверы храма. Пластычная выява, якая выканана выдатным майстрам у першай палове XVIII стагоддзя, яшчэ ў бытнасць тагачаснага касцёла кармелітаў, занесена ў шматлікія энцыклапедычныя даведнікі па старадаўняму мастацтву Беларусі. Прыцягвае ўвагу сама выява, якая адлюстроўвае нейкіх казачных жывёл, падобных на цмокаў.

Аднак, чаму разец майстра адлюстраваў цмокаў? Гэта было б зразумелым для менталітэта народаў, якія насяляюць Усход планеты. У нас жа не Кітай і не Японія. Тым не менш сама выява, адлюстраваная на дзвярах храма, не дае іншых падстаў, як характарызаваць гэтых істот не інакш як цмокаў.

Аднойчы мне на вочы патрапіла адно выданне, дзе змяшчаўся матэрыял пра Васіліска. Як ні дзіўна на ілюстрацыі, якая змяшчалася там, я заўважыў шматлікія падабенствы з выявай на дзвярах глыбоцкага храма. Няўжо Васіліск?

Што мы ведаем пра культ Васіліска на Беларусі? Згодна тэкстам летапісаў і запісаў падарожнікаў, якія вандравалі па абшарах Беларусі, становіцца відавочным, што загадкавы Васіліск жыў тут амаль да пачатку 17-га стагоддзя (!) і яму шчыра пакланяліся. Так, харват Сігізмунд Герберштэйн, які знаходзіўся на службе аўстра-венгерскага імператара і таксама з`яўляўся і ватыканскім паслом, двойчы наведаўся ў Вялікае Княства Літоўскае і ў Масковію ў 1517 і 1526 гадах. Вось што піша Герберштэйн у сваіх "Запісках аб Масковіі", апавядаючы аб дзіўным кульце літвінаў (беларусаў): "Гэтая вобласць багатая гаямі і лясамі, у якіх можна назіраць страшэнныя з`явы. Менавіта там і па сёння вельмі шмат паганцаў, якія кормяць у сябе дома нейкіх змеяў з чатырмя кароткімі нагамі накшталт яшчарак, з чорным тлустым целам. Людзі з нейкім страхам шчыра пакланяюцца ім, якія выпаўзаюць да пастаўленай ежы..." Гэтая з`ява сустракалася не толькі на Беларусі, але і ў Прыбалтыцы.

Словы Герберштэйна цалкам падцвярджаюць і другія назіральнікі. Англічанін Джэром Гарсей, камерцыйны агент, таксама наведаў Беларусь, але на паўвека пазней, у 1589 годзе. Ён піша, што калі выязджаў з Варшавы, то на беразе ракі "ляжаў мёртвы ядавіты кракадзіл". Джэрома Гарсея разабрала цікавасць, і ён загадаў сваім людзям агледзець дзіўную жывёлу. Слугі распаролі "кракадзіла". Пры гэтым, па словах Гарсея, распаўсюдзіўся такі смурод, што ён атруціў Джэрома, і ён праляжаў хворы ў бліжэйшай вёсцы, дзе толькі дзякуючы ўвазе і клопату людзей хутка ачуняў.

Прыкладна на гэты час адносіцца і цікавейшы запіс у рускім летапісе, які ўвайшоў у 30 том Поўнага збору рускіх летапісаў. Летапісец апавядаў аб тым, як у лета 1582 года ў Ноўгарадзе "изыдоша коркодилы лютии звери из реки и путь затворита..." Па сведчанню летапісца, навала дзіўных "коркодилов" напалохала людзей настолькі, што яны маліліся ў цэрквах "по всей земле" Затым частку пачвараў перабілі, а іншая частка схавалася.

Апошні дакументальны запіс датаваны 4 чэрвеня 1719 года. Тады ў Арзамасе адбылася моцная бура, якая па словах складальніка справаздачы земскага камісара Васіля Штыкава, забіла нейкага незразумелага змея, "монструза", які "смердел отвратно". Памятаючы ўказ Пятра 1 аб Кунсткамеры, загадкавага змея кінулі ў бочку з моцным двайным вінОм (гарэлкай), запячаталі і паслалі ў Пецярбург. На жаль, пасылка да сталіцы не даехала.

Як бачым, дзіўных рэптылій бачылі не толькі на Беларусі, але ў Прыбалтыцы, каля Ноўгарада і пад Варшавай і каля Арзамаса. На Беларусі і Прыбалтыцы існаваў культ пакланення змеям. Сігізмунд Герберштэйн апавядаў, што ў Вільні гаспадар дома, дзе Герберштэйн быў часовым пастаяльцам, распавёў яму дзіўную гісторыю аб тым, як святар схіліў аднаго з паганцаў забіць змяю і прыняць веру Хрыстову. Калі да таго былога паганца вярнуліся, то знайшлі яго твар скалечаным -- "рот яго жалкім чынам расцягнуты да вушэй". На пытанне, што ж здарылася, чалавек той адказаў, што наклаў рукі на боства -- змяю. Чалавек збіраўся вярнуцца да сваёй мінулай веры, каб не нажыць яшчэ больш бедаў.

Як бачым, што для сюжэта, які змешчаны на дзвярах былога глыбоцкага касцёла кармелітаў (цяпер Кафедральны сабор), падстаў было больш чым дастаткова.

Але, усё ж, хто прататып Васіліска? Зыходным матэрыялам фантазіі навукоўцы называюць то егіпецкую кобру, то рагатую гадзюку, то шлеманоснага хамелеона. Да таго ж ёсць падставы: кобра гэтага віда рухаецца напаўвыпрастаўшыся -- з узнятай галавой і пярэдняй часткай цела, а ў рагатай гадзюкі і хамелеона наросты на галаве падобныя на карону. У такім выпадку на лбу скульптур альбо малюнкаў егіпецкіх фараонаў і багоў мы бачым, магчыма, не проста змейку з паўузнятай галавой -- сімвал вечнага жыцця і магутнасці, а менавіта Васіліска.

Цяжка сказаць, як бы склаўся лёс Васіліска ў хрысціянскую эпоху, калі б не "шанцаванне": зусім выпадкова ён патрапіў у Свяшчэннае пісанне. З лёгкай рукі Іераніма Блажэннага, аўтара Вульгаты -- лацінскага перакладa Бібліі-- Васіліск быў згаданы двойчы ў кнізе Ісаіі. Іеранім адно са старажытнаяўрэйскіх назваў змяі адвольна пераклаў як Васіліск. У сучасных перакладах непаразуменне скасавана, аднак у сярэдніявякі аспрэчваць існаванне Васіліска было богахульствам.

Пачынаючы з XII стагоддзя Васіліск стаў рассяляцца па гарадах і вёсках Еўропы. І, як ні дзіўна, застаючыся ўсё той смертаноснай, жорсткай пачварай, звер палохаў усё менш: нават да самога кепскага суседа з часам прывыкаюць. Наконт "звяра" (а не "гада") -- гэта не агаворка. Цяпер Васіліск прадстае ў вобразе крылатага змея з галавой пеўня. З`яўляецца ён з яйка, якое знесена пеўнем. У сярэдневяковага Васіліска хвост змяіны (радзей цмокавы), крылы пеўневыя (радзей лебядзіныя) як правіла, таксама ад пеўня: галава, грэбень, дзве лапы са шпорамі. Па прынцыпу эканоміі фантазіі ў Васіліска засталася адна смертаносная здольнасць -- яго забіваючы погляд і дыханне.

Сярэдневяковыя бестыярыі апавядалі, што першы хітравумны спосаб загубіць Васіліска прыдумаў Александр Македонскі. Монстр забіў поглядам нямала яго воінаў, і тады цар паднёс да яго морды люстэрак -- і той загінуў ад уласнага погляду. Люстэрак стаў галоўнай зброяй у барацьбе з Васіліскамі, якія ў сярэднявечча шкодзічалі вакол жытла, труцілі сваёй прысутнасцю студні і шахты. Ласкі як і раней лічыліся прыроднымі ворагамі Васіліскаў, але адолець монстра, яны маглі толькі пажаваўшы лісце руты. Выявы ласкі з лісцікамі ў роце аздаблялі студні, царкоўныя лаўкі. У царкве разныя фігуркі ласак мелі сімвалічны сэнс: для чалавека Свяшчэннае пісанне было тым жа, што і лісцікі руты для ласкі,-- пазнанне мудрасці біблейскіх тэкстаў дапамагала адолець Васіліска-д`ябла.

Вось магчымыя падставы з`яўлення на разных дзвярах глыбоцкага храма дзівоснага і легендарнага звера Васіліска, як напамін аб старажытных і забытых вераваннях жыхароў нашага краю, якія сягаюць у глыб стагоддзяў. Прынесены з далёкіх заморскіх краін вобраз пачвары-Васіліска знайшоў на Глыбоччыне выдатную глебу адаптаваўшыся з культам змяі ў вераваннях беларусаў, што і знайшло сваё адлюстраванне на дзвярах храма.

**Ул. Скрабатун**



**На здымку:** фрагмент уваходных дзвярэй глыбоцкага Кафедральнага сабора (былы касцёл кляштара кармелітаў). Разьба па дрэву 1730-ыя гг. Калі параўнаць галаву цмока з выявы на дзвярах храма і галаву з выявы на старажытнай гравюры, уражвае амаль поўная эдэнтычнасць. Аднак, заміж крылаў і кіпцюроў у глыбоцкай выявы -- стылізаваны раслінны арнамент, у абодвух выяў -- аднолькавае змеепадобнае тулава. Падабенстваў больш, чым адрозненняў!



Старажытная выява Васіліска

# Бясплатныя прыватныя абвесткі

## ПРАДАМ:

Невялікую хату ў в. Удзела (танна)Тэл.: 36357

Дом па вул. Маскоўскай, 64, прысядзібныя забудовы. Тэл.: 24170

2-пакаёвую кватэру ў г.п. Шаркоўшчына з усімі выгодамі, альбо мяняю на г. Глыбокае. Тэл.: 8(256)22099

2-х пакаёвую кватэру ў доме па Маскоўскай, 60. Тэл.: 25186 (пасля 21.00)

Дом у цэнтры горада 6х12. Маецца тэлефон, лазня, хлеў, участак. Тэл.: 36590 (пасля 18.00)

3-пакаёвую кватэру з выгодамі ў р-не СПТВ-168, пральную машыну «Малютка» б/у ў добрым стане. Тэл.: 22007

Радыятар ацяплення чыгунны, электралічыльнік 1-фазны, электразварачны апарат, плуг 3-корпусны, культыватар, акучнік, бульбакапалку. Усё да МТЗ. Тэл.: 22917

М/Ц «JVC» б/у. Тэл.: 33594

А/М SEAT TOLEDO 1995 г.в. (дызель) BMW-324 1988 г.в. (дызель) Цана дагаворная. Тэл.: 24287

Рухавік ВАЗ-03, ВАЗ-2103 на запчасткі. Звяртацца: вул. Каліноўскага, 4. Тэл.: 22392

Піяніна. Тэл.: 24054

Сетку стальную. Тэл: 26564

М/А «Фіат-Дукато» 1990 г.в. 2,5Д, 8 пас. месц. Тэл.: 34367

Пральную машыну «Волга-16.06» б/у ў выдатным стане. Тэл.: 29230

«Яву-350» 6Вт. Звяртацца: в. Мярэцкія. Тэл.: 39476 (пасля

Тэрмінова зямельны ўчастак з падмуркам па вул. З.Бядулі. Звяртацца: Садовая 36/65. Тэл.: 26746

Мікрааўтобус МВ-100 1988, мікрааўтобус «Пежо-Боксер» 1995 г.в. Звяртацца: Глыбокае Першамайская, 21. Тэл.: 26213

А/М «Мэрсэдэс-Бенц» 307Д мікрааўтобус грузавы 1988 г.в., нядорага. Звяртацца: Глыбокае, вул. Чыгуначная, 5. Тэл.: 26371

Ложак дзіцячы драўляны 1,5 м., 2 кніжных шафы (новыя). Звяртацца: Леніна 137/58. Тэл.: 24364

Ці абмяняю з даплатай двухпакаёвую кватэру без выгод. Тэл.: 23399

а/м «Опель-Рэкорд» 84 г.в., у добрым стане. Тэл. 24879

Чэкі «Жыллё». Звяртацца: в. Галубічы Казакевіч А.П. Тэл.: 34937 (з 9.00 да 11.00 прац.).

3-пакаёвую кватэру ў в. Мосар. Праведзены рамонт паравога ацяплення (новы кацёл), ёсць гарачая і халодная вада. Тэл.: 32923 (хатні), 32925 (раб.)

Вясельны ўбор р. 44-46. Звяртацца: Глыбокае, вул. Леніна 138/57. Тэл.: 24496 (х)

Пральную машыну «Мара». Тэл.: 28826

Устаноўку для вытворчасці цукровай ваты. Працуе ад сеткі пераменнага напружання 220В. Для награвання выкарыстоўваецца бытавы газавы балон «Прапан». Габарытныя памеры ўстаноўкі: вышыня 60см., шырыня 55см., вага 22кг. Тэл.: 26761

Карову 3-х ацёлаў, жаробку 2-х гадоў. Тэл.: 37666

а/м «Опель-Кадэт» 1991 г.в., 1,4 (бензін). Тэл.: 26977

А/М ГАЗ-52, бляху ацынкаваную, гарнітур спальны, кабель КРПТ, швейную машынку, трубы метал., вугалок, пліты ж/б, халадзільны апарат, сядзібу на знос. Звяртацца: Глыбокае, вул., Леніна133/82, кв.82 Тэл.: 24017, 28933

Продаж жаночых швейных вырабаў вытворчасці ОАО «Калінка» г. Салігорск. Звяртацца: в. Арэхаўна. Тэл.: 23739

Дом па вул. Інтэрнацыянальнай, 3. 1 паверх -- памяшканне пад офіс ці вытворчасць. 3-х пакаёвую кватэру ў р-не МКК. Тэл.: 25204

А/М «Тайота-Старлет» 250 у.а. на хаду, запчасткі да «ABIA-21». Тэл.: 25204

ВАЗ-2101 1977 г.в. у выдатным стане. 800 у.а. Звяртацца: Глыбоцкі р-н в. Пліса, Чарняўскі Сяргей Тэл.: 38326

Дзіцячую прагулачную каляску б/у «Джып», тры палажэнні, вытв. Польшча. Тэл.: 29403

А/М «Опель-Амега» караван 2,3Д на запчасткі (акрамя рухавіка). Тэл.: 32526

Сядзібу пад знос, гараж на МКК, бляху ацынкаваную. А/м ГАЗ-52, вароты гаражныя, пліты ж/б, спальны гарнітур, машыну швейную (новую). Звяртацца: г.Глыбокае,вул.Чырвонаармейская, 18. Тэл.: 28933

Тэрмінова Дом драўляны 8х12 у в. Пятроўшчына, на беразе возера, сад, 1 га. зямлі, агарод, хлеў, лазня, дзве веранды, ёсць тэлефон. Нядорага. Звяртацца: в. Пятроўшчына, вул. Палявая 11 (Скурат). Тэл.: 33959 (у любы час)

Новую вуглавую канапу, малагабарытную канапу, мяккі вугалок. Звяртацца: Глыбокае, вул. Чыгуначная, 5. Тэл.: 26371

Двухпавярховую дачу ў в. Чачалі. Тэл.: 26351, 26916

А/М «ІЖ-Комбі» 1986 г.в. на запчасткі танна. Тэл.: 36917

Матаблок «Беларусь» МТЗ-05. Тэл.: 22435

«Опель-Кадэт» 91 г.в. 1,4 і монаўпрыск белы ц/з, карэктар фар, люк, супрацьтуманкі. Стан выдатны. Звяртацца: 26977

Маразільнік-лар на 220л; манітор 17``; багажнік да м/а МВ-100Д. Звяртацца: Садовая 34/18. Тэл.: 26079 (увечары).

«Опель-Кадэт» 1987 г.в. (універсал). Тэл.: 28700

А/М «Опель-Кадэт» седан 1991 г.в. цэнтральны замок у добрым стане. Тэл.: 26441

Тэрмінова недабудаваны катэдж па вул. Горкага без унутраных работ, гаспадарчыя пабудовы, водаправод, 20 сотак. Тэл.: 21758

Шафу двухдзвёрную з антрэсолямі, камод б/у, стол раскладны б/у, ложак драўляны аднаспальны б/у, пакрывала нейлонавае, сцёганае, двухспальнае. Усё нядорага. Тэл.:28506

3-х пакаёвую кватэру ў Шунеўцах, запчасткі да «Рэно-21 д». Звяртацца: вул. Чапаева, 15. Тэл.: 28424

а/м «Опель-Аскона» 85 г.в. 1,6 (бензін) 5-кпп, фаркоп 850 у.а. Звяртацца: вул. Леніна 138/48. Тэл.: 24987

Плітку абліцовачную, вугалок 35мм., труба ацынкованая, ГАЗ-52 з запчасткамі, плот металічны, сядзібу на знос, пліты перакрыцця, пліты сценавыя, гарнітур спальны, капот да М-412, бочкі пад паліва. Тэл.: 28933, 24017

А/М «Фіат-Тіпо» 1989 (лістапад) 1,6 (бензін), 5 дзвярэй, 6л. на 100 км., цэнтральны замок, электрапад`ёмнікі акон, серваруль, электрапанэль, 5-КПП. 1650 у.а. Тэл.: 21402

2-х пакаёвую кватэру ў раёне МКК 8,5 тыс. у.а.(магчымы торг) і гараж у раёне Беразвечча. Тэл. 24699

Хату ў в. Станулі, а/м ВАЗ-011, 80 г.в. Звяртацца: Чырвонаармейская,17.

Зруб 5Х6 новы са страпіламі, дом 8Х12 пад знос, шыфер добры танна. Тэл.: 29357 (працоўны)

3- пакаёвую кватэру, гараж, хлеў у раёне МКК. Тэл.: 24941

А/М «Масквіч-2140» на запчасткі. Звяртацца: Глыбокае, Гастэла, 16. Тэл.: 25249

Матацыкл "ИЖ-Планета-2" на запчасткі; кампрэсар, бур, акумулятар. Тэл.: 23068

Тэрмінова: Гараж ў р-не камбікормавага —завода. Нядорага. Тэл.: 21483

Недабудаваны дом 10Х12 і хлеў у в. Азерцы нядорага. Тэл.: 23707, 22352 (рабочы)

3-х пакаёвую кватэру ў р-не МКК. Тэл.: 24585

А/М «Фольксваген-Пасат». 1982г.в. Тэл.: 37678

Касілку КС-Ф-2, 16 новую, швейную машыну «SINGER», запчасткі Т-25. AUDI-80, 1,8 (інж), 1998г. Тэл.: 36586

ВАЗ-21063 1985 г.в. Звяртацца: Глыбокае пер. Северный 6/1. Тэл.: 29493

3-х пакаёвую кватэру ў р-не МКК ці абмяняю на 1-пакаёвую ці 2-х пакаёвую можна без выгод з даплатай ці на дом з даплатай. Тэл.: 27024

4-х пакаёвую кватэру ў 2-х кватэрным доме (частковыя выгоды) у р-не СШ №1. Тэл.: 27350

Масквіч-2140 86 г.в. -- 400 у.а., вагі 500кг. -- 50 у.а., бароны да МТЗ, сухую тынкоўку 20 лістоў, баян, запчасткі да «Масквіча-2140», мяккі вугалок б/у, Тэлевізар «Гарызонт» з новым кінескопам, куплю дом у Глыбокім (нядорага). Звяртацца: Кірава 43/15. Тэл.: 26996

Аўтамабіль ВАЗ-2106, 1980 г.в. (газ, бензін). Рухавік адзінацыліндровы дызельны. Звяртацца: в. Жукоўшчына, Шаркоўшчынскі р-н. Тэл.: 25423634

Дом у цэнтры Глыбокага, агарод 0,10 га, гасп. пабудовы, студня. Тэл.: 24317

Жаробку 1 год. Тэл.: 27085

2-х пакаёвую кватэру без выгод па вул. Мінскай 6. Звяртацца: Мінская 6, кв. 3. Тэл.: 26566

Дом у цэнтры Глыбокага, зруб з дахам, матаблок МТЗ-0,5. Тэл.: 23579

А/М «Рэно»-21 1992 г.в. 1,7 (бензін). Цана 2300 у.а. Звяртацца в. Удзела, вул. Маладзёжная, 39а

Прадам ці здам на пракат вясельную сукенку р. 46-48. Тэл.: 29081

Кацёл у пліту. Тэл.: 21326

Опель-Аскона 85 г.в. 1,6 (бензін) 5-кпп 800 у.а., торг.Звяртацца: вул. Леніна 138/48. Тэл.: 24987

Дом ст. Крулеўшчызна Докшыцкага р-на. Звяртацца: Глыбоцкі р-н в. Мосар, вул. Цэнтральная 32/8 Юркевіч Віктар

Тэрмінова Катэдж у двух узроўнях. У 5 км ад г.п. Ушачы. Ёсць тэлефон, вадаправод, с/в, гараж, веранда, хлеў, прысядзібны ўчастак 0,16 га., пладовыя кусты і дрэвы. Побач тры возеры. У добрым стане. Нядорага. Тэл.: 24346 (Ушачы), 22002 (Глыбокае)

Матацыкл «Днепр МТ-10» тып Чоппер, дап. абсталяванне, скарасная КПП, колер -- Астра металік. Цана дагаварная. Звяртацца: вул. 3 ліпеня, 7 Тэл.: 22061

Касілку КС-2,1 новую, альбо Б/У ў добрым стане. Звяртацца: Глыбоцкі р-н в. Івесь. Тэл.: 29718

КУПЛЮ Дровы з дастаўкай. Тэл.: 37619

Тэрмінова 1-пакаёвую кватэру. Звяртацца: Глыбокае. Тэл.: 28075 (з 8.00 да 16.00)

Бетонамяшалку, можна няспраўную. Звяртацца: Гагарына, 40. Тэл.: 21909

Матацыкл «Ява-350» у добрым стане. Тэл.: 21249

Ружжо 12-га калібра, можна незарэгістраванае. Тэл.: 28945

Тэрмінова Чэкі «Жыллё» Дорага. Тэл.: 29230, 26106

А/М «Жыгулі» 21011, 21013, на запчасткі, колер белы. Тэл. у Паставах: 255-23135, званіць вечарам.

ВАЗ-2121 «Ніва» і мадыфікацыі, не растаможаны, біты, без дакументаў на з/ч. Прапаноўваць любыя варыянты. Масквіч- 401 у любым стане Тэл. у Наваполацку: 824556530 (раніца, вечар)

Металічную сетку «Рабіца», цэглу чырвоную будаўнічую, блокі, вагонку, дошку неабразную. Тэл.: 39635

Матацыкл «Мінск». Тэл.: 37606

2-х ці 3-пакаёвую кватэру ў Глыбокім, ці дом. Тэл.: 26079

Трактар МТЗ-80,82. Прапаноўваць любыя варыянты. Паставы. Тэл.: 37792

А/М «VW-PASSAT» універсал не старэй 1986 г.в. Тэл. у г. Полацк: 8-02144918-34, 8-0296544459

## ПРАПАНУЮ:

Намалюю карціну пад заказ, партрэт з фотаздымка, роспіс дзвярэй, сцен пад дрэва, мармур. Тэл.: 25107 (Віктар)

Паслугі повара і афіцыянта для абслугоўвання вяселляў і банкетаў. Звяртацца: вул Леніна 32/6. Тэл.: 23308

Кантрольныя работы па англійскай, французскай мове, рэпетытарства. Тэл.: 27466 (Маскоўская 70/1)

Кантрольныя, курсавыя, дыпломныя работы па гісторыі Беларусі, сусветнай гісторыі. Тэл.: 21274

Брыгада будаўнікоў выканае любы від будаўнічых работ. Тэл.: 23204 (пасля 20.00)

Прымаем заказы ад насельніцтва на выраб сталярных вырабаў і шчытавых дамоў па канадскай тэхналогіі. Тэл.: 28269

Кансультацыі, кантрольныя, курсавыя і дыпломныя работы па эканоміцы і бухгалтарскаму ўліку, статыстыцы і г.д., а таксама па вышэйшай матэматыцы, англійскай і нямецкай мовах. Звяртацца: в. Карабы-2, вул. Маладзёжная 44. Тэл.: 39324 (х), 28191 (пр)

## КУПЛЮ:

Прычэп да Л/А (б/у), вясельны ўбор р. 44-46. Звяртацца: Леніна 138/57. Тэл.: 24496

Аверлок двухнітачны. Тэл.: 24145

Рухавік ІЖ «Планета-2», ІЖ «Планета-3». Звяртацца: Жукава, 55. Тэл.: 28167

Кузаў да А/М «Опель-Кадэт» (хэтч-бэк) 3-х дзвёрны з дакументамі ў любым стане. Звяртацца: Касманаўтаў, 25

Матацыкл «Мінск» у добрым стане. Тэл.: 38738 (пасля 18.00)

Бульбакапалку, бульбасаджалку, Буракі сталовыя. Тэл.: 27085

## здыму:

Кватэру з выгодамі. Тэл.: 23007 (пр)

Кватэру альбо дом у р-не СШ№1. Звяртацца: Маскоўская 70/1. Тэл.: 27466

Кватэру альбо дом. Тэл.: 21771 (пр)

Аднапакаёвую кватэру ў р-не МКК. Своечасовую аплату гарантую. Тэл.: 24427

## ЗДАМ

1-пакаёвую кватэру з выгодамі ў Шунеўцах, ёсць тэлефон. Тэл.: 21925

Вясельны ўбор памер 46-48(рост не менш 170 см.). Тэл.: 24145

## МЯНЯЮ:

Дом у в. Узрэччак на г. Глыбокае, альбо прадам. Звяртацца: Машэрава 15, альбо в. Узрэчча да Міхеенкавай Л.А

Дом і 1-пакаёвую кватэру на дом у Глыбокім. Тэл.: 21925

## ЗГУБА

Згубленую заліковую кніжку студэнта БАТУ Клешчанка В.А.. пад нумарам 096038 лічыць несапраўднай.

Згублена вадзіцельскае пасведчанне, тэхпашпарт і ваенны білет на імя Андрановіча В.К. Просьба вярнуць за ўзнагароду. Тэл.: 34365

Знойдзена пенсійнае пасведчанне на імя Папко Анны Генрыхаўны з Шаркоўшчыны. Звяртацца: Тэл.: 24204

## ШУКАЮ ПРАЦУ

Дзяўчына шукае працу. Вопыт работы бухгалтарам і эканамістам 8 гадоў. Звяртацца: Глыбокае, вул. Міра 6/20. Тэл.: 21642 (з 18.00 да 20.00)

Прадаўца на кірмашы (ёсць санкніжка і пасведчанне прадпрымальніка). Тэл.: 24221

Прадаўца. Ёсць санкніжка. Тэл.: 36952 (пасля 17.00)

Вадзіцеля. Маюцца ўсе катэгорыі. Звяртацца: в. Мярэцкія. Тэл.: 39406

Жанчына 35 год шукае працу прадаўца на кірмашы, ёсць санкніжка. Звяртацца: Глыбокае вул. Скарыны 59. Тэл.: 23079 (хатні)

## ЗНАЁМСТВЫ:

Здаровы мужчына 39 гадоў жадае стварыць сям`ю з жанчынай да 50 год. Пісаць на адрас: Віцебская вобл., г. Глыбокае, УЖ 15/13 -- 1 атрад. Арцёменка Аляксандр Яўгенавіч.

*Для змяшчэння бясплатнай прыватнай абвесткі запоўніце купон, выражце і дашліце на адрас: вул Шпітальная, 44, 211800, г. Глыбокае, ці аддайце нашаму распаўсюджвальніку на рынку.*

Вольнае Глыбокае

Купон бясплатных абвестак

АДРАС/ ТЭЛ

# ✶ Гараскоп ✶ 13.06 – 19.06

**Авен (21.3 -- 20.4)** Ведаеце, як прыцягнуць увагу да вачэй? Вашы вочы вартыя таго, каб з іх дапамогай зрабіць кар'еру, у бліжэйшы час памяняйце аправу (калі носіце акуляры), прыкупіце прыстойную касметыку – і адкрывайце стральбу бабуліным метадам: у вугал, на нос, на прадмет (на начальніка). Авенам мужчынскага полу раім памятаць ісціну: "Жанчыны народ непастаянны". Спрыяльныя дні – 14, 16; крытычны – 17.

**Цялец (21.4 -- 20.5)** Пазычце грошы ў багатага сябра і купіце нарэшце рэч, аб якой марылі і дома, і ў чарзе, і ў лазні. У абнове можна наведаць свецкі раут, дзе расхажвае вельмі багаценькі гусь. Чытайце ўвесь тыдзень вершы – гэта верне вам рамантычны настрой, напроч згублены з-за захадаў бухгалтэрыі на працы. Спрыяльны дзень – 14; крытычны – 19.

**Блізняты (21.5 -- 21.6)** За мінулую разбэшчанасць трэба плаціць. Але і ў сумных гэтых наступствах ёсць светлы бок: у горы і адзіноце вас наведае рэдкае натхненне. Вы, нарэшце ўсвядомце, у чым сэнс вашага жыцця. Спрыяльныя дні – 13,18; крытычны – 15.

**Рак (22.6 -- 22.7)** У кожнага чалавека наступае адказная пара, і ў вас яна падаспела. Як будзеце паводзіць сябе ў разведцы, так і застанецеся ў памяці народнай. Жывіце так, як быццам бы заўтра памрэце. За вамі назіраюць праваахоўныя органы і рэлігіёзныя назіральнікі. Пастарайцеся "ўцячы" ад слежкі. Спрыяльныя дні – 13,17; крытычны – 18.

**Леў (23.7 -- 23.8)** Вось тая гадзіна, калі можна лёгка адпомсціць крыўдзіцелю – уся благая энергія, якая скапілася за гады падполля, можа ў адначассе выплеснуцца на няшчаснага чахлага ёршыка, клюнуўшага на кручок. Акрамя грошай, славы і аўтарытэта вы яшчэ прыдбаеце новае каханне. Спрыяльныя дні – 15,19; крытычны – 18.

**Дзева (24.8 -- 23.9)** Каля вас круціцца надакучлівы паклоннік (паклонніца). Пастарайцеся выжаць з яго (яе) усё магчымае. Дзякуючы гэтаму хуткаспеламу раману будзе сытая ўся сям'я, акружаючыя, суседзі і браты па ліберальна-дэмакратычнай партыі. Варта эксперыментаваць з пахамі духоў і адэкалонаў (зусім не ў сувязі з адключэннем гарачай вады). Спрыяльныя дні – 15,17; крытычны – 14.

**Шалі (24.9 -- 23.10)** Хто б не быў побач, не давярайце яму. На бліжэйшым тыдні вас чакае здрада блізкага чалавека, будзьце гатовы да яе. Каб хутчэй зажыла рана, настройце сябе адразу на цынічную хвалю. Лепш раней ўсіх пасалаць, чым быць пасланым. Спрыяльныя дні – 14,19; крытычны – 17.

**Скарпіён (24.10 -- 22.11)** У кар'еры наступіў пераломны момант, таму гладзьце шнуркі. Тэрмінова перарабіце ўсе справы, якія начальнік даручыў вам, тэрмінова вырашце ўсе пытанні, скіньце, нарэшце, груз невырашаных праблем, нарабіце салатаў і бутэрбродаў – і наперад на прыроду, у пампасы. Спрыяльныя дні – 14,18; крытычны – 15.

**Стралец (23.11 -- 21.12)** Забудзьцеся на мінулае з яго эратычным багажом. Так, было шмат выдатнага, але калі ад гэтага не збавіцца дзеля яшчэ больш прыгожага будучага – так і будзеце буксаваць дзве бліжэйшыя пяцігодкі на красачных успамінах. Жывіце цяперашнім. Спрыяльныя дні – 15,18; крытычны – 17.

**Казярог (22.12 -- 20.1)** Шчасце для вас – у дзецях, гэта бальзам, што залечыць і няўдачы з супрацьлеглым полам і недастачамі ў грамадскай касе. Забудзьце крах у бізнес-кругах, лепш запасціся добрымі памперсамі для сына, пляменніка, унука і г.д. Спрыяльныя дні – 13,18; крытычны – 15.

**Вадалей (21.1 -- 19.2)** Замацуйце за сабой якую-небудзь грамадскую нагрузку, бо публічнае жыццё пойдзе вам на карысць. У масах захаваецца ваша добрае імя, у радах простых грамадзян – добрыя ўчынкі, а ў міравым значэнні – асоба глабальнага маштабу, не піце ў будні – раніцай будзе балець галава, што будзе замінаць рабоце і прасоўванню па службе. Спрыяльныя дні – 14,19; крытычны – 13.

**Рыбы(20.2 – 20.3)** Акумулятар вашага настрою знаходзіцца ў канкурыруючай фірме – не пазбягайце яго. Чым больш вы будзеце браць на сябе рызыкі, тым цікавей будзе вынік. Не бойцеся небяспекі – гэта ўзбуджае працаздольнасць і сексуальную энергію. Не звяртайце ўвагі на адсутнасць гарачай вады ў кране. Не ў гэтым шчасце. Спрыяльныя дні 15,18; крытычны – 14.




У джунглі прыйшла вялікая засуха. Учора адзначалі дзень нараджэння Маўглі.

***

Калі вы павінны грошы -- не расстрайвайцеся! Ёсць добрыя словы -- заўтра, праз тыдзень, праз год і па магчымасці.

***

Ён сказаў «Паехалі» і запіў вадой.

***

На экзамене студэнт бярэ адзін білет -- не ведае. Бярэ другі -- таксама. Трэці -- тая ж бяда... Так чацвёрты, пяты... Прафесар бярэ залікоўку і ставіць "3". Другія студэнты ўзрушаны:

-- За што?

-- Як за што -- калі штосьці шукае, значыць, штосьці ведае...

***

## Анекдоты Афарызмы

Святочны набор цукерак для праграміста «Мышка на серверы».

***

- Вам руку ў арміі адарвала?

-- Не, гэта мяне ў ваенкамат цягнулі.

***

Што такое 90-60-90? Язда ў горадзе міма ДАІшніка.

***

Чырвонае віно карысна для здароўя, а здароўе патрэбна каб піць гарэлку.

***

Я ведаю дзюдо, айкідо, самбо і яшчэ шмат страшных слоў.

***

Ніколі не рана позна жаніцца.

По суадносінах цана-якасць, халяўнае піва не мае канкурэнтаў.

***

-- А літр піва -- гэта шмат?

-- Гледзячы які па ліку...




Прыходзіць сын да бацькі і пытае:

-- Тата, а як зроблены мозг?

-- Адстань, сынок, у мяне галава другім занята.

***

-- Доктар! У мяне з нагамі дрэнна!

-- З нагамі добра, без ног дрэнна...

Наступны!

***

-- Эй чавэла! Нас з брат тэлай менты ўчора забралі, што з намі будзе?!

-- Я пагоду прадказваю.

-- На які чорт нам надвор"е! Што нам свеціць?!!!

-- Вы не панялі! Я вам па году кожнаму прадказваю!

Бухгалтэрыя вялікай канторы, канец года, запарка з балансам. Народ напружана працуе. Голас:

-- Колькі ў годзе месяцаў?

Глаўбух:

-- Дзесяць... без НДС...

*Віншуем*

*самую любімую сяброўку*

**Салодкую Вольгу Віктараўну**

*з Днём нараджэння!*

*Жадаем здароўя, шчасця, удачы, кахання і поспехаў ва ўсіх справах. Будзь заўсёды самай мілай, добрай, ласкавай, абаяльнай, любімай і самай шчаслівай. Мы цябе любім!*

*Тваё сяброўкі:*
*Танюшка К., Лена, Света і Маша*

Набывайце газету **«Вольнае Глыбокае»** ў кіёсках **«Саюздруку»**, у нашых распаўсюджвальнікаў, а таксама ў краме **"МКТ+"**.


"Вольнае Глыбокае"
Тыднёвік паўночна-заходняй Беларусі
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 1099, выдадзена Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

**Рэдактар і выдавец:** п.п. Уладзімір Скрабатун, пасведчанне № 390000860 ад 20. 10. 99; **тэлефон:** 2 46 14; **E-mail:** vglybokaye@irex.minsk.by

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на "Вольнае Глыбокае" абавязковыя.

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень
Аб'ём -- 2 друкаваныя аркушы
Падпісана ў друк 11 чэрвеня 2002 г. у 10[00]
Наклад 1000 паасобнікаў
Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 3260